


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*



**№ 6(688)**
**Чэрвень 2023 г.**


# Дзень Салідарнасьці з Палітвязьнямі

У нядзелю, 21 траўня, у Сэнтрал-Парку на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў Дзень Салідарнасьці з Палітвязьнямі, якія зьяўляюцца закладнікамі рэжыму Лукашэнкі.

У гэты дзень беларусы па ўсім сьвеце правялі акцыі пратэсту і салідарнасьці – пратэсту супраць рэпрэсіяў у Беларусі і салідарнасьці з тымі, каго кінулі за краты толькі за тое, што яны хацелі бачыць сваю краіну вольнай, незалежнай, дэмакратычнай і сапраўды беларускай.

Праваабарончы цэнтар "Вясна", кіраўніком якога зьяўляецца нобэлеўскі ляўрэат Алесь Бяляцкі, што таксама апынуўся за кратамі, прызначыў дзень 21 траўня, як Дзень Салідарнасьці з Палітвязьнямі, пасьля таго, як у гэты дзень два гады таму назад у зьняволеньні ў Шклове загінуў палітвязень Вітольд Ашурак. Гэты чалавек быў адданым беларускім патрыётам, актыўным удзельнікам пратэстнага руху, і публічнай асобай, падкрэсьліваў важнасьць еднасьці і салідарнасьці беларусаў, змаганьня за годнасьць і свабоду, неабходнасьць пашырэньня і мацаваньня гістарычнай памяці.

Выява Вітольда Ашурка была прадстаўленая і на імпрэзе ў Сэнтрал-Парку, што была падрыхтаваная групай "Беларусы ЗША – Разам Лягчэй" і Асацыяцыяй Беларусаў Амэрыкі (АБА) з удзелам прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Імпрэза была заплянаваная як пікнік, нефармальнае, таварыскае мерапрыемства, на якім поруч з ушанаваньнем памяці загінуўшых барацьбітоў за свабоду Беларусі пройдзе згадваньне імёнаў палітвязьняў і напісаньне лістоў да палітзьняволеных як рэальная маральная дапамога, якую неабходна аказваць тым, што былі кінутыя рэжымам за краты і часта знаходзяцца ў нечалавечых умовах і ў максымальнай ізаляцыі.

Імпрэзу вяла кіраўнічка групы "Беларусы ЗША – Разам Лягчэй" сп-ня Ганна Шарко. Яна прывітала ўсіх прысутных на паляне Sheep Meadow у Сэнтрал-Парку, коратка апісала мэты і парадак дня мерапрыемства. Яна таксама падкрэсьліла важнасьць мацаваньня беларускіх арганізацыяў і заклікала прысутных знаёміцца, наладжваць кантакты паміж сабою. Сярод прысутных былі людзі з розных штатаў Амэрыкі, а таксама беларусы, што нядаўна трапілі ў краіну праз Мэксыку. Прысутным былі перададзеныя выявы многіх палітзьняволеных з імёнамі.

Сп-ня Ганна Шарко прапанавала ўшанаваць памяць тых, хто загінуў падчас пратэстаў 2020 году і пазьней, хвілінай цішы. Затым яна коратка распавяла пра дату 21 траўня і пра асобу Вітольда Ашурка, жыцьцё якога было заўчасна спыненае тыранічным рэжымам. Затым слова меў старшыня страйкаму аб'яднаньня "Беларуськалій" сп. Анатоль Бокун, які нагадаў прысутным па-

*заканчэньне на бачыне 2*



# Дзень Салідарнасьці

*заканчэньне з бачыны 1*

дзеі лёсавызначальнага 2020 году, калі хваля народнага ўздыму абудзіла беларускі народ і паказала сьвету, на што здольныя беларусы, калі яны выступаюць разам, пад сваімі нацыянальнымі сымболямі за вольную Бацькаўшчыну і за лепшае, свабоднае жыцьцё ў дэмакратычнай краіне. Нажаль, брак цэнтралізаванага кіраваньня і каардынацыі, а таксама брутальныя меры, ужытыя рэжымам супраць бяззбройных людзей, і якія на сабе адчуў сам прамоўца, не дазволілі здабыць перамогу. Але гэта была сур'ёзная і недвухсэнсоўная заяўка на перамогу, што да сьмерці напалохала рэжым, які дасюль ня можа дараваць людзям імкненьне да волі. Тыя, што пацярпеў ад перасьледу, патрабуюць нашай увагі, падтрымкі й дапамогі.

Старшыня Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і падкрэсьліў, што для эфэктоўнага падтрыманьня праектаў, зьвязаных з дапамогай землякам, што апынуліся за кратамі, як і розных іншых справаў, неабходна мацаваньне і павелічэньне беларускай прысутнасьці ў краінах, дзе цяпер стала жывуць беларусы, у тым ліку ЗША. Праз дапамогу новапрыбылым арганізацыі дапамагаюць самым сабе, і ў далейшым – таксама і Бацькаўшчыне. Прамоўца падзяліўся досьведам арганізаваньня дзейнасьці суайчыньнікаў, скіраванай на пашырньне інфармацыі пра беларускія арганізацыі, і на дапамогу індывідуальным сябрам, якая пасьля вырастае ў дапамогу ўсёй грамадзе.






Вядучая тэлекампаніі Белсат сп-ня Наста Ільіна распавяла пра ўласны досьвед затрыманьня і пакараньня ў Беларусі і адзначыла, як не хапала ёй і ўсім тым, што апынуліся ў руках рэпрэсіўнай машыны рэжыму, ведаў пра тое, як захоўвацца і паводзіць сябе пасьля затрыманьня і ў зьняволеньні. Яна падкрэсьліла, што ўлады ўвесь час паўтараюць зьняволеным, што пра іх забыліся, што яны нікому не патрэбныя. Менавіта гэта – самае прыгнятальнае, горшае за фізычныя пакуты і голад. І таму ўсе мы, хто карыстаецца счасьцем быць вольным чалавекам у вольнай краіне, мусім зрабіць усё, каб дапамагчы зьняволеным братам і сёстрам. Прамоўца адзначыла таксама, што адною з праблемаў для беларусаў зьяўляецца асацыяваньне народу Беларусі з рэжымам Лукашэнкі, які падрымаў агрэсію Расеі ва Ўкраіне. Мы мусім казаць і пераконваць, што людзі, якія падняліся супраць рэжыму – ня могуць быць саўдзельнікамі ў ягоных злачынствах і пешкамі ў руках Пуціна і Лукашэнкі. Але першым і галоўным рэальным кірункам дзейнасьць мусіць быць змаганьне за вызваленьне палітвязьняў.

Прадстаўніца кола актывістаў сп-ня Натальля азнаёміла прысутных з дадзенымі праваабарончага цэнтру "Вясна" адносна палітзьняволеных у Беларусі. За апошнія 3 гады пад судовы крымінальны перасьлед трапілі каля чатырох з паловаю тысяч чалавек, але ня ўсе выпадкі вядомыя, і лічба можа быць яшчэ вышэй. На дадзены момант у месцах зьняволеньня знаходзяцца каля паўтары тысячы чалавек, часта ў жорсткіх нечалавечых умовах, у холадзе, труханыя хлёркай, з асацыяльнымі асобамі што пагражаюць гвалтам. Пад наймалым прэтэкстам людзей кідаюць у штрафныя ізалятары – "турму ў турме", пасьля якіх людзі хварэюць, страчваюць здароўе, а часам і жыцьцё, як Вітольд Ашурак. 10% палітычных зьняволеных – гэта жанчыны, ім адмаўляюць у элементарных сродках гігіены і проста ў нармальных чалавечых адносінах, трактуючы як небясьпечных рэцыдывістаў. Сярод палітвязьняў ёсьць і непаўнагадовыя, наймалодшаму толькі 14 гадоў. Каб перанесьці рэжым катаваньня, не зламацца, вынесьці цяжар зьняволеньня людзям патрэбная падтрымка і лісты з волі – гэта адзін зь дзейсных сродкаў яе аказаньня ў тым вузкім інтэрвале мажлівасьцяў, якія цяпер існуюць. Напісаньне лістоў – ёсьць нашым абавязкам і дзейснай дапамогай.

Затым прысутныя дружна ўзяліся за напісаньне лістоў, інструкцыі для якіх, а таксама паштоўкі й асадкі, забясьпечыла група "Беларусы ЗША – Разам Лягчэй". Было напісана пад сотню лістоў, якія затым будуць адмысловымі каналамі перасланыя ў Беларусь для далейшай адсылкі адрасатам, бо цяпер пошта з ЗША ў Беларусь не працуе. Поруч з напісаньнем лістоў і абменам уражаньнямі, людзі знаёміліся, абмяркоўвалі мажлівыя далейшыя праекты. Імпрэза была надзвычай удалая і пасьпяховая.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сьвята Кірылы Тураўскага ў царкве ў Рычманд-Гіл, Кўінс

У суботу, 13 траўня, у Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Кўіньсе (раён Рычманд-Гіл) адбылося сумеснае набажэнства і адзначаньне парафіяльнага сьвята Сьв. Кірылы Тураўскага пад эгідай архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) Уладыкі Сьвятаслава (Логіна) у суслужэньні сьвятароў: з Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне а. Івана і дыякана Міколы, царквы Сьв. Маці Божае Жыровіцкае ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі) а. Зіновія і навапрызначанага на прастол царквы Сьв. Кірылы ў Кўіньсе а. Васіля. Сёлета вернікі гэтай царквы выказаліся за далучэньне да БАПЦ, і вось у час адзначаньня сьвята Сьв. Кірылы Тураўскага стварылася нагода супольнага набажэнства сьвятароў БАПЦ з парафіяў у рэгіёне Нью-Ёрк – Нью-Джэрзі й архіяпіскапа Сьвятаслава, які адмыслова прыехаў з Канады.



У дзень 11 траўня адзначаецца сьвята Сьв. Кірылы Тураўскага, беларускага сьвятога, якога яшчэ называюць беларускім Залатавусным, на ўзор Сьв. Яна Залатавуснага, стваральніка літургіі, зь якой карыстаюць хрысьціянскія цэрквы.

Так склалася, што ў Нью-Ёрку ёсьць два храмы ў імя Сьв. Кірылы Тураўскага, і яны знаходзяцца фактычна на адной вуліцы, хоць і ў розных раёнах гораду. Храм у Рычманд-Гіл пачалі будаваць у 1968 годзе, і ён працяглы час знаходзіўся пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага патрыярха, хоць гістарычна беларусы складалі й складаюць большасьць вернікаў і сьвятарства гэтага храму.

Пад час правядзеньня літургіі набажэнства адпраўлялася на беларускай мове, дарэчы ўпершыню ў гэтым храме, што быў збудаваны беларусамі й для беларусаў. Таксама гучэлі чытаньні й царкоўныя сьпевы па-стараславянску і па-ўкраінску. Архіяпіскап Сьвятаслаў адзначыў, што хрысьцянства пераадолела сацыяльныя і этнічныя межы, і ўсе хрысьціяне служаць адзінаму Богу на розных мовах, але ў братняй любові й павазе да сваіх братоў у сёстраў у Хрысьце.




Пазьней сябры парафіі, што не былі прызвычаеныя да літургіі па-беларуску і па-ўкраінску адзначылі, што яны могуць разумець сэнс малітваў і чытаньняў у гэтых мовах нават лепей, чым у мове старaславянскай, якая ўжывалася дасюль, часткова з ужываньнем элемэнтаў літургіі ў мове ангельскай.

Пад канец набажэнства прысутныя архіяпіскап і сьвятары выступілі са сваімі зваротамі да вернікаў, і са словамі падзякі да тых, хто прыйшоў узяць удзел у сьвяткаваньні дня Сьв. Кірылы Тураўскага, і падкрэсьлівалі, што сёнешні дзень ёсьць падзеяй гістарычнай у час, калі беларускі храм далучыўся да сапраўды беларускай Царквы. Былі зробленыя аб’явы аб наступных супольных набажэнствах у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне назаўтра, 15 траўня, на Дзень Маці, і 21 траўня ў царкве Сьв. Маці Божае Жыровіцкае ў Гайлэнд-Парку.

Затым у грамадзкай залі пры царкве прайшла сумесная трапеза парафіянаў і сьвятарства.

Назаўтра вялікая колькасьць парафіянаў царквы ў Рычманд-Гіл узяла ўдзел у сумесным набажэнстваe ў Саборы БАПЦ у Брукліне, 21 траўня наведалі царкву ў Гайлэнд-Парку.

***Віталь ЗАЙКА***

# Што трэба Амэрыцы

Хто сочыць за падзеямі амэрыканскай палітыкі добра памятаюць, як у лістападзе 2021 году палітычныя левакі выбіваліся зь сілаў, ганьбячы Кайла Рытэнгаўза, 17-гадовага юнака кансэрватыўных поглядаў, што выкарыстаў зброю бароначы сябе ад бандытаў зь ліку прыхільнікаў руху BLM, што спрабавалі яго забіць. У выніку два зь іх былі застрэленыя, адзін паранены, а рэшта разьбеглася.

Як такое стала магчымым? Можна тыкнуць пальцам у любога на акцыях BLM і амаль заўсёды патрапіш у крымінальніка ці гвалтаўніка. Гэта пацьвярджае меркаваньне, што левакі вельмі часта складающца з найгоршых адкідаў грамадзтва, якіх прыцягвае адмасфэра гвалту і беспарадкаў на акцыях.

Рытэнгаўз зрабіў добрую справу для грамадзтва, і калі ў судзе яго апраўдалі, левакі як ашалелі. Карпаратыўныя мэдыі і нават Белы Дом ледзь ня год дэманізавалі хлопца, малюючы "расістам" і "крайне правым фанатыкам". Нават цяпер дэмакраты і левакі лічаць, што Рытэнгаўза трэба было пакараць, але не за тое, што ён зрабіў, а за тое, што ягоны выпадак дасьць прыклад іншым.

Але што ён зрабіў кепскага? Раз мэдыі блытаюць самаабарону з помстаю і нянавісьцю, то давайце паспрабуем разабрацца чаму. Калі нейкі чалавек, арганізацыя ці дзяржава выступаюць супраць вашай самаабароны і ўзаемадапамогі, то напрошваецца абгрунтаваная засьцярога, ці ня маюць яны самыя злачынных намераў у адносінах да вас.

Ёсьць нямала разумнікаў, якія захочуць павярнуць гэтую справу ў юрыдычнае рэчышча. Але пытаньне тут хучэй маральнага кшталту. Ці правільна спыніць злачынцу, што пагражае іншым? Ці маральна, адыйсьці ўбок, проста назіраць і чакаць, пакуль зьявяцца прадстаўнікі ўлады?

У нядаўнім выпадку сьмерці Джордана Нілы мэдыі ізноў вылузваюцца зь сябе, абвінавачваючы людзей, што спынілі брутальнага злачынцу, які пагражаў грамадзянам, замест таго, каб ускласьці віну на самога злаўмысьніка. Мэдыі зноў беспадстаўна сьцьвярджаюць, што дзеяньні народных абаронцаў непрапарцыйна скіраваныя супраць маргінальных частак грамадзтва. Па меркаваньню левакоў, калі вы захочаце абараніць сябе ад злачынцы, што належыць да меншасьці, то вы экстрыміст і расіст.

Яны прагнуць пакараньня Дэніэлю Пэнну, вэтэрану, што спыніў Нілы, калі той пагражаў пасажырам нью-ёркскага мэтро. Дэмакраты безумоўна хочуць палітызаваць выпадак і пакараць народнага абаронцу не за тое, што ён зрабіў, а за тое, што ён рэпрэзэнтуе для іх.

Важна ведаць, што пасажыры мэтро дапамагалі Пэнну стрымліваць Нілы і дзякавалі яму за абарону. Мэдыі ж рабілі ўсё, каб паказаць злаўмысьніка нявінным вулічным артыстам, якога, па-просту, няправільна зразумелі. Пра што яны ня хочуць гаварыць, дык гэта пра доўгі сьпіс злачынстваў 30-гадовага Нілы, што складаецца з 42 арыштаў за самыя розныя правіны ад выкраданьня 7-гадовай дзяўчынкі да беспадстаўнага нападу на людзей на вуліцах Нью-Ёрку і зьбіцьця састарэлых. Гэты чалавек шукаў праблемаў і знайшоў іх.

Амаль усе палітыкі Нью-Ёрку разглядаюць мэнтальную хваробу Нілы ў якасьці ягонага апраўданьня. Яны лічаць, што ён заслугоўвае нашай сымпатыі. Мэнтальныя хваробы і галеча сёньня часта становяцца апраўданьнем злачынстваў і перакладваюць віну за іх на грамадзтва. Бандытаў немагчыма асудзіць, бо яны заўсёды ахвяры. А народныя абаронцы – злачынцы, бо дзейнічаюць без дазволу дзяржавы.

Тут важна памятаць, што ў дэмакратычных штатах як Нью-Ёрк вельмі высокі ўзровень паўторных злачынстваў. Крымінальнікі надоўга не затрымліваюцца ў турмах, а палітычны актывіст акружны пракурор звычайна зьніжае тэрміны пакараньня тым, хто належыць да меншасьцяў.

Нілы і яму падобных павінны былі ізаляваць, але ў Амэрыцы так ужо амаль нідзе ня робяць. Абавязкова трэба памятаць, што паліцыя Нью-Ёрку даказала ў судах, што па закону яна не абавязаная ўмешвацца падчас зьдзейсьненьня злачынства. Яна ня маюць абавязку абараняць, а існуе толькі для таго, каб расьследваць злачынствы.

У выпадку калі сыстэма не зьбіраецца ізаляваць парушальнікаў і мэнтальна хворых, а паліцыя ня будзе вас абараняць ад іх, то які выбар застаецца грамадзянам? Тут даводзіцца спадзявацца толькі на народных абаронцаў. Мэдыі будуць дэманізаваць іх, як Рытэнгаўза і Пэнны. Магчыма, іх нават арыштуюць. Але добрыя людзі робяць правільныя справы незважаючы на абставіны і наступствы. Што Амэрыцы трэба сёньня – гэта больш народных абаронцаў, а ня здраднікаў і пацыфістаў, што хаваюцца за законам.

***Я. З.***

**Уплаты ў Згуртаваньне**

**Складкі й ахвяраваньні:**

**К. Пляўга ................75**
**В. Лапыш ................60**
**М. Троцкая ...............60**

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**К. Пляўга ................75**
**Я. Кацярыніч ............30**
**М. Паўловіч ..............30**
**А. Петруковіч ............30**
**М. Троцкая ...............30**
**В. Шуст ...................30**
**А. Ярашэвіч ..............30**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня", калі ласка, сваечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні".***
*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адраснай налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*